# Голас Радзімы

№ 3 (2093)
19 студзеня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Фота У. МЯЖЭВІЧА.

У ТВОРАХ ЯЎГЕНА ГЛЕБАВА ЗНАЧНЫЯ ТЭМЫ СУЧАСНАСЦІ І МІНУЛАГА

## МАЭСТРА

Сёлетні год для вядомага беларускага кампазітара, народнага артыста СССР, педагога і грамадскага дзеяча Яўгена Глебава — юбілейны. У верасні ён адзначыць сваё 60-годдзе. У гэты дзень да вядомага ва ўсёй краіне маэстра, прафесара з віншаваннямі прыйдуць і прыедуць яго шматлікія выхаванцы — маладыя кампазітары і студэнты кансерваторыі, выканаўцы яго твораў, а таксама і ўдзячныя слухачы. Сярод прыхільнікаў яркага таленту Я. Глебава ёсць як паклоннікі «сур'ёзнай» музыкі, так і лёгкіх жанраў. Кампазітар з аднолькавым поспехам піша сімфоніі, оперы і балеты, а таксама і музыку для эстраднага аркестра, да спектакляў і кінафільмаў. Вось ужо колькі гадоў у Дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета БССР ідзе балет Я. Глебава «Тыль Уленшпігель». У твора шчаслівы лёс: ён быў пастаўлены ў многіх тэатрах краіны і за мяжой. Вядомасць і папулярнасць кампазітару прынёс і яго балет «Маленькі прынц». Яўген Глебаў працуе пераважна ў буйных жанрах, увасабляючы значныя тэмы сучаснасці і гістарычнага мінулага. Нядаўняя яго работа — сімфонія «Да міру». Яе прэм'ера адбылася ў адным з канцэртаў фестывалю мастацтваў «Беларуская музычная восень». Як і заўсёды, кампазітар піша музыку, займаецца са студэнтамі, выступае на старонках газет і часопісаў з артыкуламі па актуальных праблемах нацыянальнага музычнага мастацтва.

ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ

## ДА 500-ГОДДЗЯ СКАРЫНЫ

Пад старшынствам намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыні рэспубліканскага аргкамітэта Н. Мазай адбылося чарговае пасяджэнне аргкамітэта па падрыхтоўцы і святкаванню 500-годдзя з дня нараджэння выдатнага дзеяча славянскай культуры, беларускага першадрукара Францыска Скарыны.

На пасяджэнні заслухана інфармацыя старшыні Мінскага гарвыканкома У. Міхасёва і міністра культуры БССР Я. Вайтовіча аб стварэнні помніка Францыску Скарыну ў Мінску. Падтрымана ініцыятыва Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры аб адкрыцці рахунку па збору сродкаў на помнік Ф. Скарыну. Заслуханы таксама паведамленні намесніка старшыні Дзяржкамвыда БССР С. Нічыпаровіча аб выпуску кніжных выданняў, прысвечаных Ф. Скарыну, старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР У. Стальмашонка аб распрацоўцы эмблемы юбілею беларускага першадрукара і намесніка міністра мясцовай прамысловасці БССР А. Вахціна аб рабоце па выпуску сувенірнай прадукцыі ў гонар юбілею Ф. Скарыны.

Рашэннем Савета Міністраў БССР імя Францыска Скарыны прысвоена Гомельскаму дзяржаўнаму універсітэту.

На пасяджэнні разгледжана пытанне аб заснаванні ў гуманітарных вышэйшых навучальных установах чатырох скарынаўскіх стыпендый студэнтам за найлепшыя поспехі ў вучобе.

ВІЗІТЫ

## ЗНАХОДЖАННЕ Ў СТАЛІЦЫ

У Мінску знаходзіўся намеснік міністра замежных спраў Вялікабрытаніі Нікалас Бейн.

Ён быў прыняты намеснікам Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР, старшынёй Дзяржплана БССР В. Кебічам. Адбылася сустрэча з міністрам замежных спраў БССР А. Гурыновічам. Гутаркі прайшлі ў дружалюбнай абстаноўцы і насілі дзелавы характар.

ПЛЕНУМ САЮЗА АРХІТЭКТАРАЎ

## ЯКІМ БЫЦЬ МІНСКУ?

Калі дойлідства не перастане быць служкай будаўнічага патоку, дык не зменіцца да лепшага і выгляд нашых гарадоў. Пра гэтую заканамернасць напомнілі ўдзельнікі VII пленума Саюза архітэктараў БССР. Ён разгледзеў ход рэалізацыі генеральнага плана развіцця Мінска і прыгараднай зоны да 2000 года. З дакладам выступіў старшыня праўлення саюза, галоўны архітэктар горада Я. Кавалеўскі.

Сталіца нашай рэспублікі — адзін з тых гарадоў Еўропы, якія растуць найбольш хутка. Згодна з разлікамі, к 2000 году колькасць насельніцтва Мінска павінна скласці 2 мільёны чалавек.

Для мінчан за тры пяцігодкі намечана пабудаваць 310 тысяч кватэр і індывідуальных дамоў агульнай плошчай 17,7 мільёна квадратных метраў.

Забяспечанасць зялёнымі насаджэннямі плануецца давесці да нарматыўнай — 21 квадратны метр на аднаго жыхара. Сумарнае расходаванне электраэнергіі павялічыцца ў 2,5 раза, ёмістасці гарадской тэлефоннай сеткі патроіцца. Гэта прыемныя для мінчан лічбы. І ў той жа час праграма напружанага пошуку для дойлідаў, будаўнікоў, спецыялістаў многіх прафесій.

КІРМАШ ІДЭЙ



У Беларускім НДІ навукова-тэхнічнай інфармацыі праходзіў незвычайны кірмаш: на ім дэманстраваліся і прадаваліся наватарскія ідэі і распрацоўкі. Галоўная мэта гэтага агляду — садзейнічаць хутчэйшаму ўкараненню дасягненняў рацыяналізатараў і вынаходнікаў, а таксама перадавога вытворчага вопыту.

У кірмашы ўдзельнічалі 270 дзяржаўных і кааператыўных прадпрыемстваў і арганізацый Мінска, былі запрошаны наватары Ленінграда, Латвіі і Літвы. Яны прадставілі каля тысячы распрацовак у галінах машына- і прыборабудавання, электронікі, будаўніцтва, гарадской гаспадаркі, лёгкай прамысловасці і экалогіі, якія ўжо даказалі сваё практычнае значэнне.

НА ЗДЫМКУ: прадукцыю кааператыўнага аб'яднання «Дыялог» дэманструе яго старшыня Уладзімір БАКОЎСКІ.

ДЛЯ СЯБЕ І ЗА МЯЖУ

## КРЫШТАЛЬ ЗА ВАЛЮТУ

«Зроблена ў СССР», «Адрас прызначэння — ЗША». З такімі надпісамі на англійскай мове можна ўбачыць вялікагрузныя кантэйнеры на Барысаўскім крыштальным заводзе ў час адгрузкі гатовай прадукцыі. І не толькі яе адпраўляюць у ЗША, а і ў Швецыю і ФРГ, Англію і Фінляндыю, краіны Блізкага Усходу.

Выгада ад экспарту значная. Сорак працэнтаў валюты, атрыманай ад рэалізацыі прадукцыі, застаецца на заводзе. А значыць, магчымасці ўдасканальваць вытворчасць, паляпшаць якасць, вырашаць сацыяльныя пытанні значна расшырыліся. Ужо цяпер барысаўчане закупляюць шаснаццаць камп'ютэраў, высакаякасныя керамічныя фарбы ў ФРГ, дэколь у англічан, сучаснае медыцынскае абсталяванне для заводскага медпункта...

Прадукцыя і іншых прадпрыемстваў Барысава прабівае дарогу на сусветны рынак — у прыватнасці, заводаў «Чырвоны металіст», хіміка-фармацэўтычнага. Рыхтуюцца пастаўляць свае вырабы за мяжу швейная фабрыка, завод аўтатрактарнага электраабсталявання.

ДАПАМОГА АРМЕНІІ




«Французская пошта — Савецкай Арменіі». «Парыж — Ерэван»... Аўтафургоны з такімі надпісамі прыцягнулі нядаўна ўвагу жыхароў пагранічнага Брэста. Хутка аформіўшы неабходныя дакументы, іх вадзіцелі ўзялі курс на раёны, што пацярпелі ад землетрасення. Калона, у якую ўваходзіла амаль д[illegible] дзесяткі машын, даставіла туды медыкаменты, адзе[illegible] не, прадукты харчавання, асвятляльныя прыборы і іншыя рэчы, сабраныя армянскай абшчынай у Парыжы. Усе вадзіцелі — добраахвотнікі, а машыны для гэтага рэйса бясплатна даў міністр сувязі і космасу Францыі.

Дапамога ў адрас Арменіі прыйшла з многіх еўрапейскіх краін. Толькі праз Брэст перапраўлена болі[illegible] як дзвесце грузавікоў. Працягваюцца грашовыя п[illegible] ступленні на рахунак 700412 ад жыхароў Брэстчыны. Будаўнічыя арганізацыі рыхтуюць спецыяльныя брыгады, тэхніку і абсталяванне для работ па ліквідацыі вынікаў землетрасення.

НА ЗДЫМКУ: грузавікі з Францыі ў Брэсце.

АДКРЫТА ТЭЛЕСТУДЫЯ

## ПАКАЗВАЕ МАГІЛЁЎ

Доўгі час Магілёўская вобласць заставалася адзінай у рэспубліцы, якая не мела свайго тэлебачання. Са студзеня жыхары Прыдняпроўя на экранах сваіх тэлевізараў пачалі глядзець праграмы абласной студыі.

Пакуль выхады ў эфір будуць ажыццяўляцца тройчы на тыдні. Кожны выпуск пачынаецца аглядам мясцовых навін, затым — тэматычныя праграмы аб грамадска-палітычным, эканамічным, сацыяльным і культурным жыцці Магілёўшчыны. Штодзённае вяшчанне пачнецца пасля набыцця вопыту.

Хоць студыя размясцілася пакуль у прыстасаванай старой камяніцы, інжынерная аснашчанасць дазваляе рабіць перадачы на добрым узроўні. Дзяржтэлерадыё БССР выдзеліла магілёўчанам добры тэлевізійны журналісцкі камплект — самы сучасны сродак для аператыўнай работы тэлежурналістаў. У далейшым тэхнічныя магчымасці яшчэ больш пашырацца. Зараз завяршаецца праектаванне новага тэлерадыёкомплексу, выдзелены сродкі на яго будаўніцтва.

АЎКЦЫЁНЫ

## ВАЛЬТЭР, ГЁТЭ І ІНШЫЯ

Больш за сто аматараў кнігі сталі ўдзельнікамі першага антыкварна-букіністычнага аўкцыёна, які адбыўся ў Гомелі. Пакупнікам былі прапанаваны выданні, якія маюць асаблівую гістарычную, культурную і мастацкую каштоўнасць.

Дзесяткі разоў на сцэне абласнога драматычнага тэатра гучаў гонг і вядучы аўкцыёна абвяшчаў: «Прададзена». Адна за адной пераходзілі да новых уладальнікаў кнігі Жуля Верна і Вальтэра, Гётэ, Дзікенса, Жорж Санд, такія выданні, як «Гісторыя чалавецтва» ў 9 тамах, «Правілы святых айцоў і апосталаў» Зонара, «Кніга карысных парад»...

29 рублёў было прапанавана за «Кулінарыю», выдадзеную ў 1955 годзе, больш чым у чатыры разы ўзнялася цана на «Жыццё і лоўлю прэснаводных рыб» Л. Сабанеева...

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ ГАРАДОЎ



**Магілёў — адзін з буйнейшых прамысловых цэнтраў рэспублікі. Але гарадскія ўлады добра разумеюць, што індустрыяльнае развіццё не павінна адсоўваць на другі план сацыяльную сферу. Таму з кожным годам горад усё больш прыгажэе, добраўпарадкоўваецца.**

**НА ЗДЫМКУ: на самым ажыўленым перакрыжаванні горада — вуліц Першамайскай і праспекта Міру адкрыты падземны пераход.**

## ПРА ВЁСКУ, ДЛЯ ВЁСКІ

ЗНАЙШЛА СВАІХ ПАКУПНІКОЎ УСЯ ПРАДУКЦЫЯ, ПАСТАЎЛЕНАЯ ЗАХОДНЕГЕРМАНСКАЙ ГАНДЛЁВАЙ ФІРМЕ «ПОСТ» ПА ДАГАВОРНЫХ АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВАХ МІНУЛАГА ГОДА ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНАЙ ПУХА-ПЕР'ЕВАЙ ФАБРЫКАЙ, ШТО ЗНАХОДЗІЦЦА Ў КВАСЕВІЧАХ ІВАЦЭВІЦКАГА РАЁНА.

Гэтай далёкай беларускай вёсачкай камерсанты з ФРГ зацікавіліся, калі ўбачылі на ВДНГ СССР дасланыя яе жыхарамі мяккія і лёгкія падушкі. А неўзабаве прадстаўнікі фірмы і самі прыехалі на фабрыку. Скрупулёзна знаёміліся яны з вытворчасцю, ацэньвалі тэхналагічныя магчымасці фабрыкі і тут жа заключылі кантракт на пастаўку ў ФРГ трох тысяч пуховых падушак.

Зараз у Квасевічы ідуць добрыя водгукі ад заходнегерманскіх пакупнікоў.

На выручаную валюту ёсць магчымасць закупляць неабходнае абсталяванне. Задаволены здзелкай і партнёры з фірмы «Пост». Яны прапанавалі ў пяць разоў павялічыць на гэты год закупку вырабаў фабрыкі.

***

МІНСКІ ТРАКТАРНЫ ЗАВОД АТРЫМАЎ ПРАВА ПРАДАВАЦЬ НЕПАСРЭДНА НАСЕЛЬНІЦТВУ, А НЕ ТОЛЬКІ КАЛГАСАМ, МАШЫНЫ, ЯКІЯ ВЫРАБЛЕНЫ ЗВЫШ ПЛАНА.

Рэалізуюцца яны праз гандлёвыя базы «Белкаапсаюза». Стальных аратых набываюць кааператары, арандатары. Ужо прададзена сто машын. Цэны вагаюцца ў межах 6 500—8 500 рублёў у залежнасці ад камплектацыі і магутнасці трактароў.

Новая форма гандлю выгадная і прадаўцу, і пакупніку. У прыватнасці, для завода гэта дадатковая крыніца прыбытку.

***

НЕЗВЫЧАЙНЫЯ НАВАСЁЛЫ ПРЫБЫЛІ Ў САЎГАС «ЦЕПЛІВОДЫ» БАРАНАВІЦКАГА РАЁНА. У АДНЫМ З ЛЯСНЫХ МАСІВАЎ У СПЕЦЫЯЛЬНЫМ ВАЛЬЕРЫ, ЯКІ ЗАЙМАЕ ДЗЕСЯТКІ ГЕКТАРАЎ, З'ЯВІЎСЯ СТАТАК АЛЕНЯЎ.

Яны дастаўлены сюды з аленегадоўчай гаспадаркі. Па прыкладу саўгаса «Днепра-Бугскі» Кобрынскага раёна ў «Цепліводах» вырашылі заняцца вытворчасцю пантаў — каштоўнай медыцынскай сыравіны. У гэтай «ляснай ферме» хутка будзе каля 300 аленяў.

***

ПАСЛУХАЦЬ ЦІКАВУЮ ЛЕКЦЫЮ І ПАРАДАВАЦЦА ДОБРАЙ ПЕСНІ, А ТАКСАМА ПРАЙСЦІ МЕДЫЦЫНСКІ АГЛЯД АБО КУПІЦЬ ТАВАРЫ ПАВЫШАНАГА ПОПЫТУ ЖЫВЁЛАВОДЫ ПЕТРЫКАВА, ШТО НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ, ЦЯПЕР МОГУЦЬ НЕПАСРЭДНА НА ФЕРМЕ.

Многія няпростыя клопаты зняў з вясковага жыхара раённы агітпоезд. У яго саставе ідэолаг, урач, фармацэўт, работнікі райспажыўсаюза, самадзейныя артысты.

Па загадзя зацверджанаму маршруту едзе па сельскіх дарогах агітцэнтр на колах, сустракаючы ўдзячнасць землякоў. У дні падрыхтоўкі да выбараў у народныя дэпутаты СССР ён узяў на сябе і яшчэ адну адказную місію: растлумачванне насельніцтву новай савецкай выбарчай сістэмы і парадак вылучэння кандыдатаў у вышэйшы дзяржаўны орган краіны.

***

ПРЫГОЖЫМ АТРЫМАЎСЯ НОВЫ ПАСЁЛАК КАЛГАСА «ПРАМЕНЬ КАСТРЫЧНІКА» МАЗЫРСКАГА РАЁНА, ТОЛЬКІ-ТОЛЬКІ ЗДАДЗЕНЫ ПАД КЛЮЧ МЯСЦОВЫМІ БУДАЎНІКАМІ.

Большасць дамоў узводзілася па індывідуальных праектах, улічвалася, і хто будзе ў іх жыць. Ёсць двухпавярховыя асабнякі з гаражом у паўпадвале, а ёсць і невялікія, на два пакоі дамы-церамкі. Паклапаціліся архітэктары аб тым, каб не было тут аднастайнасці.

Амаль усе навасёлы — мясцовыя жыхары, моладзь. Нядаўна згулялі вяселлі — і вось падарунак ад праўлення. Цяпер чарга за школай, магазінам, бальніцай. Усё гэта калгас пабудуе за свае грошы.

*У МІНСКУ ПРАЙШОЎ ПЕРШЫ РЭСПУБЛІКАНСКІ ЗЛЁТ «ДЗЕЦІ ВАЙНЫ»*

# «ЛЁС ДАРАВАЎ НАМ ЖЫЦЦЁ І ПАМЯЦЬ...»

У зале мінскага Дома настаўніка адбыўся незвычайны злёт. Злёт дзяцей вайны. Для многіх з нашых чытачоў, мяркую, тлумачыць гэтае паняцце «дзеці вайны» не трэба. Яно — нібы радок з іх уласных біяграфій. Бо ёсць і сярод нашых замежных суайчыннікаў людзі, якім выпаў горкі лёс: самы светлы, шчаслівы час у іх жыцці — дзяцінства было жорстка знявечана вайной, а такое далёкае для разумення дзіцяці слова «смерць» стала для іх ужо тады не толькі зразумелым, але амаль адчувальным.

Так, смерць не толькі вельмі блізка блукала каля іхніх хат, яна часта заглядвала туды няпрошанай госцяй, прыносячы дзецям свае «гасцінцы» — сіроцкія слёзы, боль і пакуты. Яна падпільноўвала іх і ў фашысцкіх лагерах смерці, і на непасільных работах у якасці ўсходніх рабоў на нямецкіх баўэраў.

І вось ужо сівыя людзі, старыя дзеці (так назваў іх у сваім выступленні беларускі пісьменнік Віктар Казько, які на сабе спазнаў усё гора сіроцтва), выходзяць на трыбуну і вядуць споведзь аб убачаным і перажытым перад сабой, перад тымі, хто сядзіць у зале, перад усім сваім абпаленым агнём вайны пакаленнем, перад уласнымі дзецьмі і ўнукамі.

Яны, між іншым, доўга маўчалі. Лічылася, што ёсць людзі больш заслужаныя, якія больш пацярпелі. А гэтыя, каму сёння па 50—60 гадоў, у пасляваенны час сталі пакаленнем надзеі на аднаўленне. Менавіта яны прынялі на свае параненыя, але тады маладыя плечы аснoўны цяжар разбуранай краіны. Дзе ўжо тут было ім скардзіцца ці нечага прасіць. Гэта ад іх чакалі дапамогі і спагады старыя і ўласныя дзеці.



Але час раздаваць даўгі рана ці позна прыходзіць. Грамадства павінна аддзячыць, дапамагчы тым, хто выратаваў яго. Тым больш, што гэтыя дзеці вайны сёння ўжо далёка не юныя. З гадамі ж, як вядома, колішнія раны не загойваюцца, а, наадварот, усё часцей і часцей нагадваюць пра сябе.

Прыкладна пра гэта і гаварыў у сваім уступным слове старшыня Рэспубліканскага аддзялення Дзіцячага фонду, пісьменнік Уладзімір Ліпскі. Ён прапанаваў удзельнікам злёту выдаць успаміны колішніх дзяцей вайны, пабудаваць ім помнік. Уладзімір Ліпскі адзначыў, што пасля таго, як у газетах была надрукавана аб'ява пра збор, у адрас Дзіцячага фонду (менавіта ён стаў ініцыятарам мерапрыемства) за кароткі тэрмін прыйшло паўтысячы пісьмаў. Людзі літаральна скалыхнуліся. Чытаць тыя пісьмы, сказаў пісьменнік, без слёз немагчыма. Лёсы людзей не проста складаныя, яны трагічныя, у іх пераплецены гора і радасць, жорсткасць і міласэрнасць, нянавісць і спагада.

Вось што расказала ўдзельніца сходу, настаўніца з Мінска Галіна Цішчанка.



Калі пачалася вайна, яна была выхаванкай Полацкага дзіцячага дома. Здарылася так, што ўсе дзеці засталіся на акупіраванай гітлераўцамі тэрыторыі. Яны хварэлі, галадалі. Многіх ад смерці тады выратавалі спагада і дапамога савецкіх людзей, што жылі побач, і яшчэ... тыф. Так, менавіта, тыф перашкодзіў фашыстам забраць у дзяцей кроў для сваіх раненых.

Мясцовая падпольная патрыятычная арганізацыя вырашыла выратаваць дзяцей. Праз некаторы час партызаны вывезлі іх у лес. Адтуль [illegible] савецкі тыл. Самалётам, на якім разам [illegible]ымі дзецьмі ляцела Галіна Цішчанка, кіраваў лётчык Аляксандр Мамкін. Машына была падбіта ў паветры, але лётчык праявіў не толькі мужнасць, але вышэйшае майстэрства і пасадзіў самалёт на зямлю. Дзяцей выратавалі. Лётчык жа памёр ад апёкаў і ран.

Дзеці вайны... Яны пакутавалі. Але іх ратавалі, [illegible]м цаною ўласнага жыцця. Пісьменнік Віктар Казько прыгадаў такую жыццёвую гісторыю тых часоў.

У дзяцінстве ў Хойніцкім дзіцячым доме ён сябраваў з хлопчыкам Васілём Дзятлавым...

У Васіля былі браты і сястра. Разам з маці іх пагналі ў Азарыцкі лагер смерці. Па дарозе хлопчык (яму было тады гадоў 5—6) аслабеў настолькі, што ўпаў і не мог ісці. Маці ведала, чым гэта можа скончыцца. І тады яна ў поўным сэнсе схавала сына ад смерці. Маці загадала яму маўчаць, легла на дзіця. Закрыла сабой. Падышоў фашыст, і штык, што павінен быў увайсці ў цела Васіля, забіў яго маці. Хлопчыку ж закрануў толькі перапонку ў вуху.

Антаніна Гарчакова, дырэктар школы з Вілейкі, былы малалетні вязень канцлагера, сказала: «Лёс даравaў нам жыццё і памяць». Так, усе мужчыны і жанчыны, што сабраліся на сход, сапраўды былі жывой памяццю мінулага. Сама Антаніна Гарчакова трапіла на Беларусь у час вайны як вязень. Але ўласныя пакуты і пакуты зямлі, на якой яна апынулася, зніталі, парадніла іх настолькі, што болей яны не развіталіся. Руская дзяўчына Антаніна Гарчакова стала настаўніцай беларускай мовы, роднай ёй сёння мовы.

Але бывае і іншая рэакцыя. Гора раз'ядна-ла чалавека з роднай зямлёй. Паэт Сяргей Панізнік прачытаў свой верш, прысвечаны дзецям вайны, і расказаў аб сустрэчы на Украіне з беларускай жанчынай, якая дзіцем нацярпелася жахаў на радзіме столькі, што не здолела застацца дома, дзе ўсё нагадвала пра перажытае.

Дык з якой жа мэтай сабраліся сёння на свой злёт дзеці вайны?

Каб падтрымаць адзін аднаго, каб дапамагчы адзін аднаму, залучыць увагу грамадства да сваіх праблем. Але была і яшчэ адна прапанова. Яе выказаў ад імя Дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі. Ён папрасіў дапамогі (зноў дапамогі ў іх!) у рабоце з сённяшнімі сіротамі, якіх, на жаль, у рэспубліцы нямала, з дзецьмі-інвалідамі, з так званымі «цяжкавыхоўнымі» дзецьмі. Тыя, хто сам зведаў нястачы і безбацькоўства, хутчэй зразумеюць дзіця, якое аказалася, хай сабе і праз дзесяткі гадоў, у мірны час, але ўсё ў тым жа незайздросным становішчы сіраты.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

**НА ЗДЫМКУ: Любоў КРЫШНЁВА, былы вязень лагера смерці ў Азарычах, прыехала на злёт разам з сынам Віктарам; канцлагер Дзверць былога Даманавіцкага раёна Палескай вобласці. Браты БЕЛЯКОВЫ з Кіраўскага раёна. Іх маці загінула ў лагеры.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ ВУЧОНАГА

# САЦЫЯЛІЗМ І КАПІТАЛІЗМ: ДЗЕ МЯЖА?

Адрозненняў паміж сацыялістычнай і капіталістычнай эканомікай, натуральна, многа. Гэта і розныя структуры нацыянальных гаспадарак, і канкрэтныя формы функцыяніравання таварных рынкаў, і спосабы дзяржаўнага рэгулявання рыначных адносін, формы і метады кіравання. Але колькі б мы ні абмяркоўвалі гэтыя і мноства іншых рысаў і рысачак эканомікі, грамадскага і дзяржаўнага ладу, якія адрозніваюць адну сацыяльна-палітычную сістэму ад другой, мы пастаянна будзем сутыкацца з немалой колькасцю і падобных момантаў.

Так, разглядаючы таварныя рынкі, напрыклад, СССР і Францыі, мы там і там сустрэнемся з хісткімі цэнамі і барацьбой спажыўцоў з вытворцамі, з вынікамі ўзлётаў і падзенняў курсаў валют на сусветных рынках каштоўных папер. Безумоўна, агульнымі катэгорыямі з'яўляюцца банкі, пазыковы працэнт, прыбытак і іншыя фінансавыя атрыбуты. І, нарэшце, з нядаўняй пары ў СССР некаторыя вучоныя-эканамісты, кіраўнікі прадпрыемстваў сталі выступаць за канкурэнцыю ва ўмовах сацыялізму, якая, на іх думку, дазволіць вырашыць шэраг вострых эканамічных праблем.

Але ўсё ж: у чым глыбінныя адрозненні паміж сацыялізмам і капіталізмам? Звернемся да гісторыі. Калі выстрал крэйсера «Аўрора» і штурм Зімняга палаца ў кастрычніку 1917 года можна лічыць пачаткам зараджэння сацыялізму як грамадскага ладу, то з адменай прыватнай капіталістычнай уласнасці на сродкі вытворчасці эканамічная цывілізацыя перайшла Рубікон, за якім пачалося фарміраванне прынцыпова новай эканамічнай сістэмы. Заводы, фабрыкі, шахты, руднікі, зямля, вада і г. д. сталі грамадскім здабыткам, уласнасцю ўсяго народа. Іншымі словамі, кардынальна змянілася становішча працаўніка ў вытворчасці: ён стаў гаспадаром.

На сцягу грамадскай вытворчасці цяпер напісана: дзеля Чалавека, дзеля задавальнення ўсёй гамы яго патрэб, уключаючы адукацыю і культуру. Адсюль — і зусім іншыя прыярытэты развіцця ўсіх галін народнай гаспадаркі.

Але нельга забываць, што кожны працаўнік успрымае сацыяльна-эканамічную сістэму не толькі па сваёй ролі і месцу ў грамадскай вытворчасці. У не меншай ступені для яго важны і прынцып размеркавання створанага прадукту і як вынік гэтага — дасягнуты ўзровень жыцця. Сацыялізм абвясціў справядлівы прынцып размеркавання па працы, ліквідаваўшы тым самым магчымасць прысвойваць кім-небудзь чужую працу.

Аднак трэба прызнаць, што ў сілу шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын роля гаспадара вытворчасці для працаўніка ва ўмовах сацыялізму і размеркаванне па працы за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў сталі для СССР больш палітычнымі лозунгамі, чым прынцыпамі, якія рэальна ажыццяўляюцца. Камандна-адміністрацыйная сістэма кіравання народнай гаспадаркай, якая была створана ў сталінскі перыяд і ўмацавана ў эпоху Брэжнева, прывяла да страты ў простых працоўных пачуцця ўласніка сродкаў вытворчасці, да замены гаспадарчых адносін да працы звычкай няўхільна выконваць указанні «зверху». Аплата працы ў большасці выпадкаў адпавядала не колькасці і якасці створанага прадукту, а займаемай пасадзе. І таму нядзіўна, што ўзровень прадукцыйнасці працы ў СССР на сёння істотна ніжэйшы, чым у ЗША, Японіі, Швецыі, ФРГ і іншых краінах, прыкладна гэтага ўзроўню індустрыяльнага развіцця. А адсюль — і больш нізкі ўзровень жыцця.

Вядома, сацыялізм у СССР прайшоў выпрабаванне грамадзянскай вайной і інтэрвенцыяй у 20-я гады і разрухай; даводзілася затрацiць шмат сіл і сродкаў для ліквідацыі страт у другой сусветнай вайне. І тым не менш, калі б не буйныя памылкі ў кіраўніцтве народнай гаспадаркай, сацыялізм у СССР займаў бы больш значнае месца ў сістэме эканамічных каардынат.

Мы разгледзелі некаторыя сацыяльна-эканамічныя катэгорыі, якія тэарэтычна даюць перавагу сацыялізму над капіталізмам, але практычна яна зводзіцца да мінімуму ў сілу больш нізкіх канкрэтных эканамічных паказчыкаў.

Але ёсць усё ж мяжа, дзе адрозненні паміж дзвюма сістэмамі відаць асабліва рэльефна, дзе перавага сацыялізму, думаецца, неаспрэчная. Гэта — сацыяльная абароненасць працоўных. Па-першае, у СССР вось ужо амаль 60 гадоў няма беспрацоўя — гэтага вечнага спадарожніка капіталізму. Працоўным гарантавана, незалежна ад сумы ўплаты прафсаюзных узносаў і пенсійных выплат, пенсія па старасці і хваробе. Праўда, у капіталістычных краінах гэтаму пытанню цяпер удзяляецца ўсё больш увагі, але і ў СССР не стаіць на месцы, і хутка для ўсенароднага абмеркавання будзе прадстаўлены праект новага пенсійнага заканадаўства. Сацыялізм у СССР рэальна гарантуе права на працу па спецыяльнасці і ў адпаведнасці з патрэбамі грамадства.

Вядома, тут ёсць і свае «але». Забяспечваючы поўную занятасць, сацыялізм пазбаўляецца дастаткова жорсткага «бізуна», які ўласцівы капіталізму з яго нараджэння і які з'яўляецца адным з яго рухавікоў. Сёння вакол гэтага «бізуна» ў нас ідуць даволі гарачыя дэбаты. Некаторыя вучоныя-эканамісты і гаспадарчыя практыкі прапануюць увесці беспрацоўе ў сацыялістычную сістэму гаспадарання, што, на іх думку, умацуе дысцыпліну працы і павысіць прадукцыйнасць.

Іншыя, у тым ліку і я, цвёрда стаяць на пазіцыях непрыняцця нават частковага беспрацоўя. Мы лічым, што эканамічная сістэма сацыялізму цалкам можа вырашыць свае праблемы іншымі, больш гуманнымі спосабамі. Менавіта на гэта накіравана перабудова, што ажыццяўляецца ў краіне. І залог яе поспеху мы бачым у тым, што яна ўключае ў сябе радыкальную рэформу як эканомікі, так і палітычнай сістэмы, якая дазволіць умацаваць сацыялізм, дасць яму магутны імпульс руху наперад.

**Уладзімір КАМАЕЎ, доктар эканамічных навук, прафесар.**

## ВІНШУЮЦЬ ЗЕМЛЯКІ

**Паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі «Голасу Радзімы»!**

**Я і мая сям'я віншуем вас з Новым, 1989 годам!**

**Жадаем моцнага здароўя, шчасця ў асабістым жыцці, поспехаў у вашай плённай рабоце па ўмацаванню ўзаемаразумення і дружбы народаў. Выказваем шчырае спачуванне нашаму савецкаму народу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам ад прыроднага катаклізму ў Армянскай ССР. Кранулі высакародным жэстам многіх краін па аказанню матэрыяльнай і медыцынскай дапамогі пацярпеўшым ад катастрофы ў Армянскай рэспубліцы.**

**Любоў МАГЛАВА.**
Бельгія.

**Прыміце сардэчныя віншаванні з Новым, 1989 годам, пажаданні добрага здароўя, поспехаў і шчасця.**

**Юрый РАСАДЗІНСКІ.**
Аўстралія.

**Дазвольце павіншаваць супрацоўнікаў рэдакцыі з Новым, 1989 годам! Жадаем усім моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у жыцці і працы.**

**Няхай новы год прынясе вам ажыццяўленне ўсіх вашых жаданняў, бадзёрасць, радасць!**

**Няхай будзе мір на зямлі!**

**Міхаіл і Кацярына ЗВАНАРОВЫ.**
Канада.

**Паважаная рэдакцыйная калегія «Голасу Радзімы»!**

**Я, Аўгусціновіч Браніслаў Антонавіч з Нюрнберга, хачу вас і ўвесь савецкі народ павіншаваць з Новым, 1989 годам і пажадаць вам усяго найлепшага.**

**Хачу выказаць глыбокае спачуванне з нагоды землетрасення ў Арменіі. Я ахвяраваў маленькую суму для пацярпеўшых. Народ у ФРГ вельмі спачувае армянскаму народу і па закліку нашай прэсы і тэлебачання паказаў сваю гатоўнасць памагчы людзям у бядзе.**

**Браніслаў АЎГУСЦІНОВІЧ.**
ФРГ.

**Сардэчна віншуем з Новым годам!**

**Жадаем здароўя, шчасця і поспехаў!**

**Іван і Магдуся ТАРВІКІ.**
Канада.

**Паважаныя супрацоўнікі Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Ад усяго сэрца віншую вас з Новым годам! Ён будзе цікавым і важным не толькі для савецкага народа, які распачаў шырокія рэвалюцыйныя рэформы, але і для ўсяго свету, што ўважліва і пільна прыглядаецца да перабудовы ў Савецкім Саюзе.**

**Замежныя суайчыннікі з неаслабнай цікавасцю сочаць за ўсімі пераменамі, што адбываюцца ў эканамічным і сацыяльным жыцці роднага народа, і ўдзячныя вам за савецкія выданні, якія атрымліваем ад вас.**

**З глыбокай павагай,**

**Гары ТОМСАН-ТРАБІЦКІ.**
Аўстралія.



**Многія распрацоўкі Інстытута электронікі АН БССР вядуцца па найбольш перспектыўных напрамках навукі і тэхнікі. Так, супрацоўнікі лабараторыі інтэгральнай оптаэлектронікі, якія займаюцца даследаваннямі фізічных і тэхналагічных прынцыпаў інтэграцыі фотаадчувальных структур на аснове крэмнія і паўправадніковых цвёрдых раствораў, сумесна са спецыялістамі прамысловага прадпрыемства стварылі фотаадчувальную інтэгральную мікрасхему для фотаапарата з сістэмай аўтафакусіроўкі. Яна выкарыстоўваецца ў серыйна выпускаемым айчынным фотаапараце «Элікон-аўтафокус».**

**Даследаванні вучоных інстытута вядуцца пры адной важнай умове — самым хуткім укараненні ў практыку. Так была заключана гандлёвая здзелка, у выніку якой тэхналогія стварэння тонкаплёначных фотарэзістараў на аснове сульфіда-селеніда кадмія, з параметрамі на ўзроўні сусветных прамысловых узораў, зараз перадаецца доследнаму заводу сенсораў і сенсорных устройстваў Інстытута прыкладной фізікі Балгарскай Акадэміі навук у горадзе Плоўдзіве.**

**НА ЗДЫМКУ: старшы навуковы супрацоўнік лабараторыі аўтаматызацыі вымярэнняў, кандыдат тэхнічных навук Віктар ІЛЫН за эксперыментальнай лазернай устаноўкай для размернага кантролю светлаводаў.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

### *З ПАДАРОЖЖА ПА ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ АМЕРЫКІ*

# НЕ РАССТАЛІСЯ Б МЫ З НАШЫМ КРАЕМ

**(Працяг. Пачатак у №№ 51, 52 за 1988 год і № 2 за 1989 год).**

Злева радуе вока зялёная сенажаць, адгароджаная ад дарогі немудрагелістым драўляным плотам. Такім, якія і сёння яшчэ можна ўбачыць у беларускіх вёсках — невысокія, укапаныя ў зямлю слупкі-шулцы злучаныя паміж сабою двума ... мі доўгіх жэрдак. Плот гэт..., як я потым зразумеў, выконвае не сваю прамую «ахоўную», а хутчэй за ўсё сімвалічную функцыю, бо тут няма ад каго і ад чаго адгароджвацца. Гэтае няхітрае, спрадвечнае ... лянскае збудаванне ў дань... ...ыпадку, відаць, з'яўляецца, як сказаў бы спецыяліст-архітэктар, своеасаблівым дэкаратыўным стылізаваным элементам экстэр'еру, які служыць гаспадарам і гасцям «Полацака» некрыклівым напамінкам пра далёкія родныя краявіды.

Узязджаем на прасторны падворак. Кідаецца ў вочы яшчэ адна прыемная дэталь, звязаная з Радзімай: крыху воддаль, у ценю пад дрэвамі, стаіць чырвоны трактар «Беларусь»... «Спачатку хацелі купіць японскі трактар,—скажуць нам потым гаспадары, — але вось падумалі, памеркавалі ды купілі гэты. Усё ж такі свой...»

Алекс націскае званок. Дзверы адчыняе невысокі мужчына сярэдняга ўзросту. Побач з ім маладжавая сімпатычная кабета. На найчысцейшай беларускай мове гаспадары запрашаюць нас у хату. Гэта прадстаўнікі «Полацака» Сяргей Карніловіч і Ірына Каляда-Смірноф. Карані С. Карніловіча ў Докшыцах, што на Віцебшчыне, а І. Каляда-Смірноф — зусім блізкая мая зямлячка. Яе маці родам з Навагрудчыны, з вёскі Падкасоўе.

Плаўна, нетаропка цячэ наша шчырая гутарка. Мы расказваем пра апошнія навіны на Бацькаўшчыне, пра дзейнасць Беларускага таварыства «Радзіма», якое мае жаданне наладзіць стабільныя культурныя адносіны з «Полацакам». Нашы субяседнікі ўважліва слухаюць, задаюць нямала пытанняў. У кожным іх слове, кожнай рэпліцы адчуваецца жывая, глыбокая зацікаўленасць справамі на Беларусі...

Перабудова ў рэспубліцы, стан роднай мовы, маладзёжныя нефармальныя аб'яднанні, мінскае метро, кнігавыдавецкая справа, музыка, літаратура, тэатр, музеі, Чарнобыль, Курапаты — як мага падрабязней стараемся мы з Віктарам давесці ўсё гэта нашым гаспадарам. Зрэшты, становішча наша шмат у чым спрашчаецца той акалічнасцю, што і Сяргей, і Ірына, як і тыя беларусы, з якімі мы сустрэнемся пазней, з матэрыялаў прэсы дастаткова глыбока знаёмы з жыццём сённяшняй Беларусі. Гэтаму знаёмству, безумоўна, спрыяе і багатая бібліятэка «Полацака», дзе беражліва захоўваюцца беларускія мастацкія, навуковыя і перыядычныя выданні. Ёсць тут і свая фанатэка. Вось Сяргей уключае магнітафон, і палілася беларуская песня. Гучаць запісы выступленняў барда сучаснай беларускай моладзі Сяргея Сакалова-Воюша...

Як прадмет асаблівай гордасці Ірына з Сяргеем паказваюць нам і дораць на памяць пласцінкі з песнямі Багдана Андрусышына — Данчыка. Даверлівы, пяшчотны голас гэтага арыгінальнага спевака, яго высокае музычнае і вакальнае майстэрства не пакідаюць раўнадушным нікога з беларусаў, што жывуць у Злучаных Штатах і Канадзе...

Данчыку зараз 30 гадоў. Нарадзіўся і гадаваўся ён у Нью-Йорку. Яго маці — беларуска, бацька — украінец. Багдан Андрусышын скончыў факультэт журналістыкі Нью-Йоркскага універсітэта. Атрымаў таксама добрую прафесіянальную музычную адукацыю па класу фартэпіяна.

Ні разу не пабываўшы на зямлі бацькоў і дзядоў, Данчык з маленства ўсёй душой палюбіў беларускую песню і стаў яе апантаным прапагандыстам і папулярызатарам у Амерыцы...

Не так даўно таленавіты спявак быў госцем беларусаў Беласточчыны. Там ён з вялікім поспехам выступіў у Белавежы, Гайнаўцы і Беластоку. Вось што пісаў пра канцэрты Данчыка Алесь Барскі на старонках мясцовай газеты «Ніва»: «Думаю, што кожны чалавек, праслухаўшы песні Данчыка, калі і не стане лепшы, то, прынамсі, падумае аб чымсьці добрым, высакародным. У гэтым і праяўляецца сіла ўздзеяння Данчыкавай песні... Спявае ён цэлую гадзіну. На працягу гэтай гадзіны ніводнага фальшывага ці чужога для беларускай мовы вымаўлення. Бездакорная фанетыка, дасканалая дыкцыя, прыгожая стылістыка!.. Спявае натуральным чыстым голасам — тым чалавечым ці божым дарам, якім надзяліў яго лёс.

Калі слухаю Данчыка, здаецца мне, што ў яго голасе спалучаецца ў адну прыгожую цэласць пошум пушчы, журчанне крыніцы, стогны ветру, птушыны шчэбет, шэпты калосся.

Як добра, што такія самародкі, нягледзячы на тое, што далёка закінуў іх лёс, аддаюць свой фенаменальны талент на службу Беларусі!»

«Адкуль вы чэрпаеце натхненне ў сваёй дзейнасці?» —з такім ... таннем звярнуўся да спевак... ...рэспандэнт «Нівы» Мікола Гайдук, і быў адказ: «З пачуцця абавязку зрабіць нешта для дабра беларускай справы, папулярызацыі багацця беларускай культуры на амерыканскім кантыненце. Вельм... ...блю беларускую песню і ... гэты абавязак выконваю з прыемнасцю. Чуў і бачыў я «Песняроў» з Савецкай Беларусі, пазнаёміўся з імі падчас іх выступлення ў Нью-Йорку ў 1977 годзе. Імі я захапляўся да гэтага, яны былі маімі духоўнымі братамі. Калі ж я пазнаёміўся з імі, гэтыя пачуцці яшчэ больш узмацніліся, паглыбіліся...»

Я пішу гэтыя радкі пра Данчыка, беларускага салаўя Злучаных Штатаў Амерыкі і Канады, і спадзяюся, шчыра веру, што прыйдзе, абавязкова прыйдзе час, калі Багдан Андрусышын прыедзе да нас на Беларусь, якую ён так хораша апявае ў сваіх песнях.

Чым больш гутарым мы з нашымі суайчыннікамі, тым больш пераконваемся, як шануюць яны сваю беларускасць, ганарацца ёю, імкнуцца не губляць повязі з роднай культурай, традыцыямі і звычаямі.

Нібы бясцэнны скарб, зберагаюць «палачане» беларускія вышываныя ручнікі, паясы, посцілкі, нацыянальныя касцюмы, прадметы паўсядзённага побыту. А мова... Тут, у суцэльным англамоўным асяроддзі, клівелендскія беларусы захавалі ўсю непаўторнасць роднага слова. І не толькі захавалі самі гэты свяшчэнны дар продкаў, але і далучылі да яго сваіх дзяцей!..

Тут любяць і ўмеюць іграць на цымбалах і на дудцы... Тут ведаюць цану заліхвацкай прыпеўцы і расцяжнай народнай песні... Тут не забыліся «Крыжачок» і «Лявоніху»... Тут здымаюць шапку перад спадчынай Купалы, Коласа, Багдановіча... Тут Чарнобыль лічаць і сваёй бядою... Тут не адчуваюць ніякіх комплексаў перад англасаксамі і прадстаўнікамі іншых народаў... Тут памятаюць Беларусь...

Гісторыя беларускага эміграцкага руху ў Кліўлендзе, як нам расказалі яго непасрэдныя ўдзельнікі, бярэ свае вытокі ў канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў, калі сюды з краін Заходняй Еўропы, у першую чаргу з Германіі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, сталі прыязджаць нашы суайчыннікі.

Варта разам з тым адзначыць, што выхадцы з Беларусі былі ў Кліўлендзе і да другой сусветнай вайны. Па сведчанню доктара Вітаўта Кіпеля, аўтара цікавай грунтоўнай манаграфіі «Беларускія амерыканцы і іх аб'яднанні ў Кліўлендзе», першыя перасяленцы з Беларусі з'явіліся ў Кліўлендзе ў самым пачатку XX стагоддзя. Прыкметна расла колькасць беларусаў у гэтым амерыканскім горадзе ў 1905—1914 гадах. Людзі ехалі сюды ў пошуках кавалка хлеба і лепшай долі... Хто ведае, магчыма, гэта пра іх напісаў свой верш наш Максім Багдановіч у 1914 годзе:

**Ёсць на свеце такія бадзягі,**
**Што не вераць ні ў бога, ні ў чорта.**
**Ім прыемны стракатыя сцягі**
**Караблёў акіянскага порта.**

**І няма ім каго тут пакінуць,**
**Бо нікога на свеце не маюць.**
**Усё ім роўна: ці жыць, ці загінуць, —**
**Аднаго яны моцна жадаюць:**

**Пабываць у краях незнаёмых**
**Ды зазнаць там і шчасця, і гора,**
**І загінуць у хвалях салёных**
**Белапеннага сіняга мора.**

**Але мы — не таго мы шукаем,**
**Не таго на чужыне нам трэба.**
**Не расталіся б мы з нашым краем,**
**Каб было дзеля нас у ім хлеба.**

**І на вуліцы пад грукат, пад гоман,**
**Дзе натоўп закруціўся рухавы,**
**Нам маячыцца вёсачка, Нёман**
**І агні партавыя Лібавы.**

Сярод пачынальнікаў беларускага руху ў Кліўлендзе былі Сяргей Карніловіч і Кастусь Калоша. Гэтыя вялікія энтузіясты, адданыя беларускай справе людзі, былі таксама ініцыятарамі заснавання грамадска-культурнага цэнтра «Полацак». Ролю «Полацака» як асяродка нацыянальнай культуры цяжка пераацаніць. Гэта месца маёвак і спатканняў. Тут праводзяцца ўсе значныя грамадскія мерапрыемствы, наладжваюцца лекцыі, канцэрты, сустрэчы з цікавымі людзьмі.

**Леанід КАЗЫРА.**

**(Заканчэнне будзе).**

# НІ ПЕРАД КІМ НЕ ЗАЧЫНЯЦЦА ДЗВЕРЫ

## ГУТАРКА СА СТАРШЫНЁЙ ПРЭЗІДЫУМА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА» МІХАІЛАМ САВІЦКІМ

**— Публічнасць, дэмакратызацыя жыцця нашага грамадства стварылі спрыяльныя ўмовы для дзейнасці Беларускага таварыства «Радзіма». Яно стала больш адкрытым, і, магчыма, таму ім сталі больш цікавіцца не толькі за мяжой, а і ў рэспубліцы — у сябе дома. У прыватнасці, такімі пытаннямі: хто тыя беларусы за мяжой, да якіх Таварыства мае дачыненне! Бо не сакрэт, што сярод нашых людзей, нават, здавалася б, і адукаваных, і дасведчаных, бытуе перакананне, што «за Ла-Маншам» ніякіх беларусаў няма, прынамсі, такіх, з кім варта было б знацца. Адны паліцэйскія. Ну, а за акіянам, дзе-небудзь у ЗША ці Канадзе,— і таго горшыя людзі: толькі былыя галаварэзы з дывізіі СС «Беларусь»...**

— Што датычыцца адкрытасці, то мы, я маю на ўвазе Таварыства, і раней не былі закрытай, таямнічай арганізацыяй. Гэтыя ўласцівасці нам прыпісвалі і гэтым імкнуліся адштурхнуць ад нас замежных суайчыннікаў тыя самыя беларусы, да якіх мы не маем дачынення. Гэта былыя злачынцы, якія ў гады «халоднай вайны» прыклалі нямала намаганняў да таго, што мы называем падрыўной антысавецкай дзейнасцю. Так, ёсць і такія беларусы як «за Ла-Маншам», так і ў Амерыцы, і ў Аўстраліі. Але, па-першае, іх нікчэмная меншасць, а па-другое, гэта каінава племя амаль што вымерла.

Да Беларускага таварыства «Радзіма» цягнуцца нябачныя духоўныя ніці ад сотань, тысяч выхадцаў з гэтай зямлі, якіх па праву можна назваць патрыётамі. Яны ехалі на Захад не ў абозе фашысцкага вермахта. Яны плылі ў душных, смярдзючых трумах параходаў у Канаду, ЗША і Аргенціну. Іх, бедных сялян з былой Заходняй Беларусі, звабілі туды на «добрыя» заработкі, а то і на «сваю» зямлю польскія пасрэднікі розных замежных кампаній. Былі сярод даваеннай эканамічнай эміграцыі, а гэта немалая колькасць — сотні тысяч чалавек, і людзі, якія ратаваліся ад Картуз-Бярозы — члены КПЗБ, Беларускай сялянска-рабочай грамады. Між іншым, палітычныя эмігранты ў першую чаргу, а за імі і эканамічныя ўліліся ў рабочы і фермерскі рух, папоўнілі рады камуністычных партый тых краін, куды закінуў іх лёс, разам з працоўнымі краін, дзе яны аселі, выступалі на класавых барыкадах у страшныя гады вялікай дэпрэсіі, здзяйснялі так званыя «галодныя маршы» на Атаву і Вашынгтон.

Эмігранты з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны заснавалі ў 30-я гады Федэрацыю рускіх канадцаў (ФРК), мноства клубаў — Якуба Коласа, Янкі Купалы, Белавеж і іншыя — у Аргенціне (цяпер гэта Федэрацыя культурных клубаў савецкіх грамадзян у Аргенціне).

Гэта была першая вялікая хваля эміграцыі, якая пачалася яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя з Расіі, а закончылася напярэдадні другой сусветнай вайны з тэрыторый Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Другую хвалю нарадзіла Вялікая Айчынная вайна і акупацыя Беларусі фашысцкімі захопнікамі. У выніку — асабліва многа апынулася на Захадзе нашых жанчын. Ім было па 14—18 гадоў, калі іх везлі ў «цялячых» вагонах у гітлераўскую Германію.

Вось калектыўны партрэт нашага замежнага беларуса, а такіх выхадцаў з Беларусі толькі ў капіталістычных краінах сёння, па самых прыблізных падліках, больш аднаго мільёна чалавек.

**— Але гэты партрэт будзе няпоўны, калі мы зноў «забудзем» пра амаль 500 тысяч беларусаў, якія жывуць з намі побач — у Польскай Народнай Рэспубліцы...**

— Думаю, што цяпер ужо не забудзем. Тым больш, што асноўная маса польскіх беларусаў жыве тут, пад бокам, у Беластоцкім ваяводстве. Да таго ж за які год мы ўжо маем з імі столькі кантактаў.

Прынята цэлая праграма, накіраваная на развіццё культурных сувязей з БГКТ і аказанне дапамогі беларускім школам, ліцэям, клубам мастацкай самадзейнасці і г. д. У выкананні гэтай праграмы ўдзельнічаюць не толькі наша Таварыства, а і Беларускі савет прафсаюзаў, Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, міністэрствы асветы і культуры і шэраг іншых арганізацый.

Вядома, справа новая, і тут у нас не ўсё ідзе, як хацелася б, шмат праблем узнікае. Вось, напрыклад, як дапамагчы беластоцкім беларусам у будаўніцтве этнаграфічнага музея ў Гайнаўцы. Аказваецца, тым беларусам, што жывуць на Захадзе, гэта зрабіць прасцей, чым нам, суседзям і братам. І тут трэба змагацца з бюракратызмам. Але думаю, выхад знойдзем.

**— Міхаіл Андрэевіч, пачатак супрацоўніцтва з БГКТ, мне здаецца, сведчыць пра тое, што і Беларускае таварыства «Радзіма» закранула перабудова. Ці не здаецца вам, што новае мысленне, пра якое гавораць на высокіх паверхах міждзяржаўных адносін, пранікае і на ніжнія паверхі — адносіны паміж асобнымі арганізацыямі і грамадзянамі! У рэшце рэшт, калі справа тычыцца нашай сферы, то можна сказаць, што мяняецца наша стаўленне да эміграцыі, да тых, хто цяпер ад'язджае з Беларусі і выбірае месцам жыхарства іншую краіну.**

— Мы ж не на бязлюдным востраве жывём: тое, што адбываецца ў краіне, закранае і Беларускае таварыства «Радзіма». Так, наша стаўленне да эміграцыі змянілася. Яго я выказаў бы так:




дзверы Таварыства не зачынены ні перад кім. Праўда, мы і раней праводзілі такую палітыку, але надта ж нясмела. У нас [illegible]аліся трывалыя сувязі з ФРК, Сак[illegible] савецкіх грамадзян у Бельгіі (СС[illegible], аргенцінскімі клубамі і іншымі арганізацыямі, якія лічацца прагрэсіўнымі. З імі нам было проста. Арганізацыі гэтыя аб'ядноўваюць людзей, патрыятычна настроеных, якія разумеюць і падзяляюць нашы погляды, прыхільна ставяцца да Савецкага Саюза, удзельнічаюць у руху за мір. Ім мы дапамагаем у іх культурна-асветнай рабоце, у наладжванні кантактаў з Радзімай. Гэта асноўная частка беларускага эміграцкага замежжа.

Але ж там ёсць і такія беларусы, што займаюць, у лепшым выпадку, нейтральныя пазіцыі да ўсяго савецкага. Многія настроены не то што варожа, а вельмі ўжо насцярожана да нашай краіны. З'явы і падзеі, якія ў прагрэсіўных суайчыннікаў выклікаюць радасць за сваю Радзіму, у іх успрымаюцца як прапаганда. У тых беларусаў многа пярэчанняў, не ва ўсім яны згодны з намі. Магчыма, мы і самі вінаваты, што не ішлі з такімі людзьмі на прамы дыялог і тым адштурхнулі іх ад сябе.

Цяпер мы хочам сказаць такім людзям: калі ў вас захавалася пачуццё еднасці з той зямлёй, адкуль вы выйшлі, пачуццё каранёў сваіх, нам няма чаго стараніцца адзін аднаго. Мы можам не згаджацца па многіх пытаннях, спрачацца адзін з адным, але нас не павінен аддзяляць непераадольны бар'ер. Калі чалавека цікавіць Радзіма, мы павінны задаволіць гэтую цікаўнасць, калі яму патрэбна духоўная падтрымка, мы павінны працягнуць яму руку.

У нас ужо ёсць і першыя прыклады такіх кантактаў. Я маю на ўвазе наведанне нашай дэлегацыяй беларускага культурнага цэнтра «Полацак» у Кліўлендзе.

**— Але некаторых можа збянтэжыць, што яны ходзяць пад бел-чырвона-белым сцягам і знакам «Пагоні».**

— А вы б ведалі, як яны слухаюць нашы песні, прывезеныя з Мінска! І многа робяць для пашырэння беларускай культуры сярод эміграцыі, знаёмства з ёю амерыканскага асяроддзя. Мы можам быць пад рознымі сцягамі, але знайсці агульныя пункты прыкладання сіл. Калі ў глабальнай палітыцы мы гаворым пра прыярытэт агульначалавечых мэт, то ў нашай дзейнасці гэта таксама павінна знайсці рэальнае ўвасабленне. Адзіна, з кім мы не будзем шукаць дыялога, дык гэта са здраднікамі Радзімы і злачынцамі, з тымі, хто выступае супраць нас як Савецкай дзяржавы. Усіх астатніх мы рады бачыць на нашай зямлі, абмяркоўваць з імі розныя сумесныя мерапрыемствы, разам цешыцца добрым пераменам у нашым краі і спрачацца па тых ці іншых праблемах. Розныя палітычныя погляды яшчэ не прычына для адчужанасці і канфрантацыі.

Быў час, калі мы павінны былі вызначаць сяброў толькі па тым, што яны гавораць пра нашу краіну, наш лад, добрае ці не вельмі. Нам прыемна лашчыла вуха пахвала. І любое сумненне ў нашых плакатных перавагах успрымалася як антысаветызм. Але цяпер, калі мы столькі сказалі свету пра сябе, нам важней пачуць ад суайчынніка яго рэальную ацэнку ўсяго, што адбываецца ў нас цяпер і што было ў мінулым.

**— Міхаіл Андрэевіч, вось мы гаворым тут пра тое, што дзверы Таварыства адчынены перад усімі беларусамі...**

— ...Не толькі беларусамі — перад усімі, хто носіць у сабе пачуцці да нашай зямлі як да Радзім[illegible]. Перад кожным, будзь ён рускі, у[illegible]ец ці яўрэй, хто, аднойчы ўбачыўшы [illegible]ларусь, не забываецца пра яе, цікавіцца яе гісторыяй і сённяшнім жыццём. Мы не рабілі і не будзем рабіць розніцы паміж беларусамі і небеларусамі. Па-першае, гэта не ў нашым духу, не ў нашых традыцыях, а па-другое, мы толькі пашкодзілі б справе патрыятычнай работы. Вазьміце такія масавыя арганізацыі нашых суайчыннікаў за мяжой, як ФРК, камітэт газеты «Русский голос» у ЗША, Федэрацыя культурных клубаў у Аргенціне, Саюз савецкіх грамадзян у Бельгіі, таварыствы землякоў у Галандыі. У іх жа не толькі беларусы ўваходзяць, а і ўкраінцы, і палякі, і рускія, і яўрэі. Яны разам адзначаюць у сваіх клубах нашы нацыянальныя і дзяржаўныя святы, разам пяюць і нашы, і рускія, і ўкраінскія песні, разам выдаюць і распаўсюджваюць сваю прэсу, збіраюць сродкі на яе выданне, разам ходзяць на дэманстрацыі і мітынгі ў абарону міру...

Але гэта не значыць, што беларусы не маюць свайго твару, сваёй адметнасці. У апошнія гады ў наша Таварыства прыходзіць больш за ўсё просьбаў прыслаць флаг рэспублікі і карту БССР. Вось пад гэтым савецкім беларускім флагам і выходзяць нашы землякі ў розных краінах на дэманстрацыі, мітынгі, прымаюць удзел у фестывалях. Каб астатнія ведалі, хто мы такія і адкуль, гавораць яны.

**— Таварыства дапамагае нашым замежным землякам падтрымліваць культурныя кантакты з Бацькаўшчынай... Што стаіць за гэтымі агульнымі словамі!**

— Гэта і дапамога ў арганізацыі культурна-асветніцкай дзейнасці зарубежных зямляцтваў: падручнікі для школ, мастацкая літаратура для грамадскіх бібліятэк, кінафільмы для клубаў, дзе часта збіраюцца суайчыннікі, урэшце, наша газета «Голас Радзімы» і іншыя выданні рэдакцыі для кожнага, хто мае штодзённы інтарэс да Беларусі. Землякі з нецярплівасцю чакаюць сустрэч з нашымі артыстамі, якія штогод прыязджаюць да іх у складзе турысцкіх груп Таварыства «Родина». Яны ведаюць дарогу да нас на курсы мастацкай самадзейнасці, пасылаюць на лета сваіх дзяцей і ўнукаў у піянерскі лагер, на вучобу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Ведаюць, што Таварыства «Радзіма» дапаможа набыць нацыянальныя касцюмы для харавых і танцавальных калектываў.

Новыя часы ставяць перад намі і новыя праблемы. Расце колькасць моладзі, якая хацела б атрымаць вышэйшую адукацыю ў Беларусі. Асабліва з беларускіх ліцэяў на Беласточчыне. Значыць, нам трэба пашыраць прыём дзяцей суайчыннікаў у ВНУ рэспублікі. Да гэтага часу мы пасылалі нашых спевакоў і музыкантаў у складзе агульных груп Таварыства «Родина», куды ўваходзілі прадстаўнікі розных рэспублік. Цяпер мяркуем, напрыклад, у Аргенціну і ЗША выпраўляць свае асобныя групы, бо чуем усё больш нараканняў ад землякоў: дзе ж нашы беларускія калектывы? Робім захады для абмену маладзёжнымі групамі на безвалютнай аснове. Людзі павінны мець больш магчымасцей бачыцца, ездзіць адзін да аднаго, пазнаваць краіну і народ.

У параўнанні з іншымі, беларусы маюць нешматлікую інтэлігенцыю сярод эмігрантаў. Але ўсё ж у нас таксама ёсць, скажам, нямала мастакоў. Мяркуем, што і ім, і нам было б цікава мець выстаўку сваіх твораў у Беларусі. Таварыства «Радзіма» бярэцца арганізаваць экспазіцыю. Першыя прапановы з-за мяжы мы атрымалі. Для нашых наведвальнікаў гэта можа быць нечаканым адкрыццём: вельмі нямногія ведаюць, што ў нас за мяжой ёсць беларусы-мастакі, і неблагія.

**— Калі мы ўжо закранулі мастацкі бок нашых адносін з замежнымі суайчыннікамі, то некалькі слоў пра адносіны тых беларусаў да праграмы «Вяртанне» Беларускага фонду культуры. Мяркуючы па іншых рэспубліках, там эміграцыя вельмі спрыяе вяртанню на Радзіму духоўных каштоўнасцей народа.**

— Гэта ж — у іншых! Глядзіце, што робіцца ў рускіх, армян, літоўцаў. Колькі рэліквій вярнулі ўжо ў краіну. На жаль, мы, беларусы, гэтым не можам пахваліцца. Пакуль што зроблена не надта многа. А ў нас жа таксама ёсць нацыянальныя скарбы за мяжой. І патрыятычная справа эміграцыі, перш за ўсё інтэлігенцыі, дапамагчы вярнуць іх свайму народу.

**— Будзем спадзявацца, што наш голас пачуюць... І, мабыць, апошняе пытанне, Міхаіл Андрэевіч. Была эміграцыя эканамічная, была ваенных часоў. Сёння мы з вамі з'яўляемся сведкамі яе трэцяй хвалі. Штогод, прынамсі з Беларусі, ад'язджаюць за мяжу людзі для так званага ўз'яднання сямей...**

— Так, гэта хваля з пачаткам перабудовы набірае разгон. Відаць, нармальная з'ява, хоць нам і нялёгка да яе прызвычаіцца... Кажуць, пакуль у Гатаве, пад Мінскам, італьянцы будавалі нам завод, трыццаць ці сорак нашых дзяўчат павыходзілі за іх замуж. Гэта толькі адзін з апошніх прыкладаў. Многія ж выходзяць замуж за іншаземцаў, якія навучаюцца ў нас. Таму сёння, бадай, ці не ў кожнай краіне Афрыкі і Азіі стрэнеш беларусаў. І яны не зракліся Бацькаўшчыны. Наадварот. Дазвольце прывесці некалькі радкоў з вялікага ліста Валянціны Эль Хашымі:

«Прыйшоў новы год, але ніякіх надзей не прынёс. Я маю на ўвазе работу. А няма работы — няма радасці быць сярод людзей, няма глыбокага задавальнення ад жыцця, яно становіцца духоўна бяднейшым. І самае галоўнае — адкладваецца паездка на Радзіму, сустрэча з роднымі, з усім тым, пра што ты марыш, туды, дзе засталося тваё сэрца... Што ні кажыце, а савецкі чалавек — самы шчаслівы на зямлі. Гэта не пусты гук. У гэтым я пераканалася сама».

Ну, як не адгукнуцца на такі крык душы?! Чужына, яна ўсё ж чужына.

Для такіх суайчыннікаў таксама адчынены дзверы Беларускага таварыства «Радзіма». Многія з іх ствараюць свае зямляцтвы. Гэта ў асноўным тыя, хто трапіў на афрыканскі і азіяцкі кантыненты. Іншыя ж, хто выехаў у Еўропу ці Амерыку, рана ці позна прыходзяць у патрыятычныя арганізацыі землякоў, пра якія мы ўжо згадвалі. Жыццё прыводзіць іх туды. Чалавек, у якім не згасла ў душы чалавечае, будзе гарнуцца да сваіх, цягнуцца думкамі і сэрцам да сваёй зямлі.

**Вёў інтэрв'ю В. КРАСЛАЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКУ: замежныя суайчыннікі, удзельнікі курсаў мастацкай самадзейнасці, у майстэрні народнага мастака СССР, старшыні прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма» Міхаіла САВІЦКАГА.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

## ВУЧОНЫ ДАСЛЕДАВАЎ БЕЛАРУСКА-РУСКІЯ ФАЛЬКЛОРНЫЯ СУВЯЗІ

# ГІСТАРЫЧНЫ ЗРЭЗ ЧАСУ

На паліцах кніжных магазінаў з'явілася кніга доктара філалагічных навук прафесара К. Кабашнікава «Беларуска-рускія фальклорныя сувязі» (выдавецтва «Навука і тэхніка»). Аўтар манаграфічнага даследавання даўно займаецца вывучэннем узаемасувязей трох братніх народаў—рускага, беларускага і ўкраінскага ў галіне культуры, асабліва на прыкладзе народнай вуснапаэтычнай творчасці. З гэтай мэтай аддзел славістыкі пад кіраўніцтвам вучонага на працягу амаль што дзесяці гадоў ездзіў у экспедыцыі ў прыгранічныя з Расіяй і Украінай раёны, праводзіў усебаковыя франтальныя абследаванні, высвятляў жыццё фальклору як адзінага, своеасаблівага тыпу старажытнай культуры ў наш час. Акрамя шматтысячных запісаў аўтэнтычнага фальклору, навукоўцы вывучалі праграмы дзесяткаў фальклорна-этнаграфічных калектываў, аналізавалі іх выканаўчы рэпертуар праз прызму запазычанняў песень розных жанраў з фальклорнай спадчыны рускіх і ўкраінцаў. Багаты фанаграфічны матэрыял даў К. Кабашнікаву магчымасць паказаць гістарычны зрэз фальклорных узаемасувязей пакуль што толькі двух народаў — беларускага і рускага. Можна спадзявацца, што ў недалёкай будучыні гэта карціна будзе дапоўнена вывучэннем і беларуска-ўкраінскіх сувязей у галіне народна-паэтычнай творчасці.

У самым пачатку кнігі вучоны-фальклярыст робіць кароткі экскурс у гісторыю вывучэння пастаўленай праблемы. Ён адзначае, што ў дарэвалюцыйны час вучоныя розных школ і напрамкаў звярталіся да параўнальнага вывучэння беларускага фальклору. У першай палавіне XIX стагоддзя супадзенні ў розных жанрах вуснай паэзіі рускіх і беларусаў адзначалі З. Даленга-Хадакоўскі, А. Рыпінскі, Я. Чачот, Я. Тышкевіч. Значна большую моц параўнальнае вывучэнне набірае ў другой палавіне XIX стагоддзя, дзякуючы працам Е. Раманава, П. Шэйна, Э. Кліха, П. Бясонава, М. Сумцова, Я. Карскага. Вучоныя і фальклярысты-збіральнікі адзначаюць цэлы шэраг падабенстваў у сістэме жанраў, вобразаў, мастацкіх сродкаў.

У XX стагоддзі славістычныя даследаванні працягваюцца ў двух напрамках. Па-першае, выяўляюцца ўсё новыя факты запазычанняў, а па-другое—у пасляваенны час пачынаецца грунтоўнае тэарэтычнае вывучэнне працэсаў узаемаўзбагачэння ў розных фальклорных традыцыях. Аднак праца К. Кабашнікава—першае да гэтага часу даследаванне, у якім выяўляюцца важнейшыя заканамернасці ўзаемадзеяння розноэтнічных фальклорных традыцый на розных гістарычных этапах.

К. Кабашнікаў лічыць, што актыўным, бесперапынным кантактам паміж рускай і беларускай фальклорнай традыцыяй садзейнічалі агульныя вытокі духоўнай спадчыны ўсходніх славян. З гэтай мэтай робіцца невялікі гістарычны экскурс у сівую мінуўшчыну, у той час, калі шматлікія славянскія плямёны жылі адзінай сям'ёй. Менавіта ў гэтую эпоху фарміравалася светапоглядная аснова вуснай паэзіі, выпрацоўвалася яе сімволіка. Агульнасць семантыкі славянскіх сімвалаў спрыяла выпрацоўцы вельмі блізкіх сістэм вобразаў і паэтыкі. Аднак, на думку аўтара, рашаючую ролю ў развіцці культурнай традыцыі адыграла стварэнне старажытнарускай дзяржавы. Ён заўважае: «Адна з важных прычын падабенства вуснапаэтычнай творчасці блізкароднасных народаў—развіццё фальклору на агульнай для гэтых народаў аснове, выкарыстанне ў фальклорным працэсе агульных здабыткаў, агульных традыцый у самым шырокім сэнсе. Вядома, што агульнай спадчынай і агульнай крыніцай развіцця вуснапаэтычнай творчасці кожнага з усходнеславянскіх народаў быў фальклор Кіеўскай Русі, у якім існавалі асноўныя жанры народнай паэзіі, была распрацавана адпаведная сістэма вобразаў, мастацкіх сродкаў».

Абапіраючыся на матэрыялы летапісаў, усходнеславянскі шэдэўр пісьмовай літаратуры «Слова аб палку Ігаравым», К. Кабашнікаў робіць даволі ўдалую спробу рэканструкцыі сістэмы жанраў рускага, беларускага і ўкраінскага фальклору старажытнай Русі. Ён прыходзіць да высновы, што ў той час шырокае распаўсюджанне набылі казкі, замовы, песні каляндарна-абрадавага і сямейна-абрадавага цыклаў: калядныя, вялікодныя, купальскія, вясельныя і радзінныя.

У наступных раздзелах свайго даследавання К. Кабашнікаў разглядае беларуска-рускія фальклорныя сувязі на працягу пазнейшых гістарычных этапаў: у эпоху феадалізму і капіталізму, а таксама іх развіццё ў савецкі час.

Асаблівую цікавасць уяўляе сабой раздзел, у якім даследуюцца фальклорныя ўзаемасувязі эпохі феадалізму. Вучоны раскрывае пэўныя заканамернасці ўзаемадзеяння розноэтнічных традыцый у галіне вуснай народнай творчасці, прычым у по-

## ШАНУЮЦЬ ПАМЯЦЬ ПАЭТА-ЗМАГАРА

# ШКОЛЬНЫ МУЗЕЙ ТАЎЛАЯ



Некалькі гадоў назад запрасіў першых наведвальнікаў музей сярэдняй школы № 1 горада Слоніма. Яго адкрыццё было прымеркавана да 70-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта В. Таўлая. Музей гэты пачынаўся з літаратурнага гуртка. Раіса Каласоўская, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, на адным з заняткаў расказала членам гуртка пра жыццёвы шлях Валянціна Таўлая. І гэтыя звесткі сталі як бы штуршком да пошуку. Вучні прыняліся за работу: пабывалі ў вёсцы Рудаўка, дзе прайшло дзяцінства паэта, запісвалі ўспаміны яго землякоў, сабралі шмат фотаздымкаў. Знойдзеныя матэрыялы і склалі аснову экспазіцыі.

...З Р. Каласоўскай заходзім у невялікі класны пакой на другім паверсе школы. Дарэчы, калісьці тут была мужчынская гімназія, В. Таўлай наведваў заняткі. Як гаварыў сам, «вучыўся ў вялікай школе».

З музейных стэндаў можна падрабязна даведацца пра жыццёвы шлях паэта. Падоўгу наведвальнікі затрымліваюцца ля цікавай экспазіцыі, дзе адлюстраваны той час, калі Таўлай знаходзіўся за кратамі. Аднак і ў турме ў яго была зброя. Кожны радок вершаў клікаў на барацьбу супраць панскай Польшчы. Вось здымкі, якія знаёмяць нас з жыццём земляка пасля ўз'яднання Беларусі. Гэта быў час надзей і светлых задум. Але вайна перакрэсліла ўсе мары. І ў перыяд акупацыі Беларусі ворагам вершы паэта заклікалі да барацьбы, бо паэт шчыра верыў у перамогу.

Часта прыходзяць у школу пісьмы ад жонкі Лідзіі Сяргееўны і дачкі паэта Галіны. А вось на стале пісьмо ад сястры Ніны Паўлаўны. Яго нядаўна атрымалі з Вільнюса актывісты музея. Школьнікі адразу ж адказалі на пісьмо, бо спадзяюцца на новыя звесткі, якія могуць папоўніць экспазіцыю.

Ніколі не пустуе школьны музей. З дня яго адкрыцця тут пабывала нямала экскурсій. У музеі таксама праходзяць сустрэчы з пісьменнікамі, піянерскія зборы, праводзяцца тэматычныя ўрокі па літаратуры, гісторыі.

Выклікаюць цікавасць наведвальнікаў успаміны М. Мікуліка і Ю. Тарасюка з Казлоўшчыны, якія былі знаёмы з Таўлаем, жонкі паэта, М. Бурсевіча, А. Іверса (І. Міско), Я. Брыля, М. Арочкі, А. Лойкі і іншых.

У экспазіцыі музея можна ўбачыць рэдкі зборнік вершаў нашага земляка, якія перакладзены на ўкраінскую мову. У Раісы Каласоўскай і яе памочнікаў ёсць задумы па абнаўленню экспазіцыі музея. І да 75-годдзя з дня нараджэння Валянціна Таўлая ён будзе мець іншы выгляд. Дабавяцца яшчэ некалькі стэндаў, а экспанаты папоўняцца новымі матэрыяламі, якія сабралі самі вучні.

У музейнай кнізе водгукаў нямала цёплых слоў у адрас дзяцей. Вось адзін з запісаў: «Прыемна бываць у такіх музеях, створаных рукамі і стараннямі саміх школьнікаў і энтузіястаў-настаўнікаў. Думаю, што вобраз паэта-змагара Валянціна Таўлая ў многім вызначыць напрамак грамадскага жыцця тых маладых душ, якія дакрануцца да гэтай літаратурнай з'явы. Дзякуй шчыра. Данута Бічэль-Загнетава».

Хочацца далучыцца да гэтых удзячных слоў і дадаць, што прыемна бачыць жывыя кветкі ля бюста паэта. Сённяшняя моладзь не павінна забываць сваіх славутых землякоў.

**М. СЯРГЕЕВА.**

**НА ЗДЫМКУ: Р. КАЛАСОЎСКАЯ з актывістамі музея Валянціна Таўлая сярэдняй школы № 1 г. Слоніма.**

**Фота М. СУПРУНА.**

МІНІ-РЭЦЭНЗІЯ

# ГЭТЫ ШМАТФАРБНЫ ЭПІТЭТ

Чаро... мілагучнае роднае слова. ...сягаецца непаўторнасць, свежаць яго гучання дзякуючы багаццю вобразна-выяўленчых, стылістычных сродкаў. Сярод іх адно з першых месцаў належыць эпітэту. Ёсць розныя азначэнні яго, але, каб не ...ацца ў тэарэтычныя развагі, дастаткова сказаць, што эпітэт дапамагае выявіць, адчуць і перадаць самыя дакладныя нюансы шматлікіх паняццяў, а таксама перажыванняў чалавека, выказаць яго адносіны і стаўленне да навакольнага свету.

Эпітэт спадарожнічае нам на кожным кроку. Ужо нават у першым сказе гэтай рэцэнзіі, называючы роднае слова чароўным, мілагучным, мы выкарысталі не што іншае, як агульнамоўны эпітэт. Але ж эпітэты яшчэ бываюць народна-паэтычныя, якія вытокамі сваімі пачынаюцца ў фальклоры, а таксама — індывідуальна аўтарскія, што, як бачна з самога азначэння, нараджаюцца шчодрай фантазіяй паэтаў, празаікаў, іншых творчых работнікаў.

Сапраўднае моўнае багацце! І чым больш дасканала чалавек валодае мовай, тым больш разнастайныя стылістычныя сродкі ён выкарыстоўвае. Нямала ў гэтым дапамагаюць і шматлікія слоўнікі. Прыемна, што ў апошні час у рэспубліцы ў гэтым кірунку робіцца шмат. Да чытача прыйшлі «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча», «Тураўскі слоўнік», працягваецца выданне «Гістарычнага...» і «Этымалагічнага...» слоўнікаў.

Усе яны — плён працы калектываў навукоўцаў, перш за ўсё супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР. На гэтай па-сапраўднаму даследчыцкай ніве відавочны плён і асобных вучоных-энтузіястаў (прыгадаем «Слоўнік мовы Скарыны», складзены В. Анічэнкам, «Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў» М. Клышкі), і маладых рупліўцаў.

Пацвярджэнне таму і «Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы», нядаўна выпушчаны выдавецтвам «Навука і тэхніка», аўтар якога загадчык адной з рэдакцый рэспубліканскага выдавецтва «Юнацтва» Міхась Пазнякоў. Не кожнаму па сіле тое, што зрабіў ён: у слоўнік увайшло звыш 400 найбольш ужывальных назоўнікаў беларускай мовы, якія маюць самую вялікую колькасць эпітэтаў. Каб вызначыць гэта, аўтар карыстаўся «Частотным...» і «Тлумачальным...» слоўнікамі.

Пабудова кнігі зручная для карыстання. Называецца пэўнае слова, а затым прыводзяцца эпітэты, якія М. Пазнякову ўдалося выявіць. Часта іх не адзін дзесятак, і гэта яшчэ раз гаворыць на карысць таго, як шмат зроблена аўтарам. Напрыклад, да слова «мэта» прыводзіцца 136 эпітэтаў, «работа»— 142, «размова»— ажно 161 эпітэт. І падобных прыкладаў можна прыводзіць шмат. Якая багатая наша мова! І крыўдна робіцца, калі чытаем некаторыя творы або артыкулы ў газеце, дзе аўтар абмяжоўваецца пэўным наборам штампаў, заезджаных выразаў і невыразных эпітэтаў.

Між іншым, М. Пазнякоў па меры магчымасці ў якасці ілюстрацыйнага матэрыялу выкарыстоўвае цытаты з твораў мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры, з перыядычных выданняў, фальклору... Янка Купала і Якуб Колас, Іван Мележ і Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў і Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў і Пімен Панчанка, Кузьма Чорны і Пятрусь Броўка...

Адкрыем слоўнік наўгад... На старонцы 179 якраз падабраны эпітэты да слова «жарт»... «Абражлівы, абуральны, арыгінальны, балаганны, банальны, бесклапотны, бестурботны...» і г. д. Аказваецца, ёсць яшчэ жарт адважны, сакавіты...

Яшчэ разгорнем слоўнік выбарачна... Старонка 384... Да слова «радасць» прыводзіцца нямнога-нямала, а 197 эпітэтаў!

«Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» М. Пазнякова проста неабходна мець пад рукой усім, хто цікавіцца сённяшнім і заўтрашнім днём роднай мовы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

ле яго зроку трапляюць розныя ўзроўні падабенстваў. Бадай што, адным з найбольш складаных пытанняў усходнеславянскай фалькларыстыкі з'яўляецца паходжанне гераічнага эпасу. К. Кабашнікаў прытрымліваецца погляду, што быліны—гэта паэтычнае адлюстраванне падзей перыяду Кіеўскай Русі. Іх жыццё як фальклорнага жанру мае сваю непаўторную спецыфіку. Сістэма сімвалаў, вобразаў і мастацкіх асаблівасцей былін цесна звязана са славянскай міфалогіяй, з больш позняй казачнай традыцыяй. Вельмі складаны малюнак удзелу казак у фарміраванні гераічнага эпасу, і, наадварот, роля былін у стварэнні новых казачных сюжэтаў усебакова раскрыта на прыкладзе шматлікіх варыянтаў казкі пра Ілью Мурамца.

Аналізуючы традыцыйную песенную культуру ўсходніх славян эпохі феадалізму, вучоны адзначае, з аднаго боку, значную агульнасць іх каляндарнай абраднасці і паэзіі. Напрыклад, ён падкрэслівае генетычную сувязь зімовага песеннага цыклу. З другога боку, не засталіся па-за яго ўвагай спецыфічныя рысы рускай (падблюдныя песні) і беларускай (шчадроўкі) песнятворчасці. Тое ж самае можна сказаць і пра разгляд сямейна-абрадавых песень. Падкрэсліваючы цэлы шэраг падабенстваў у вясельным абрадзе і паэзіі, К. Кабашнікаў разам з тым звяртае ўвагу на некаторыя адрозненні ў сімволіцы. Так, у рускай паэзіі жаніха і нявесту сімвалізуюць сокал і лябёдка, а ў беларускай—качар і вуціца.

Характэрнай асаблівасцю вуснай паэзіі эпохі феадалізму стаў цэлы цыкл гістарычных песень. Нягледзячы на тое, што ў гэты перыяд беларускі народ надоўга быў адарваны ад рускага, у яго творчасці з'явіліся песні пра пэўныя гістарычныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі Расіі. Многія з гэтых твораў трапілі на Беларусь і ў новым асяроддзі захавалі змест і меладычную аснову, аднак асіміляваліся ў адпаведнасці з нормамі беларускай мовы.

Эпоха капіталізму характарызуецца карэннымі зменамі ў сацыяльна-эканамічным развіцці Расіі і Беларусі. Векавечны патрыярхальны быт змяняецца новым укладам жыцця, на арэну гісторыі выходзяць новыя класы—пралетарыят і буржуазія. Паступова ўзмацняюцца эканамічныя сувязі паміж рускім і беларускім народамі. Скінуўшы з сябе ланцугі феадальнай заняволенасці, пралетарыят цягнецца да горада. Пачынаюцца інтэнсіўныя міграцыі цэлых слаёў насельніцтва. У кнізе К. Кабашнікава паказана, як усе гэтыя сацыяльныя змены ўплывалі на гісторыка-культурныя працэсы ўзаемасувязей усходніх славян. Вучоны падкрэслівае, што перамяшчэнне вялікай колькасці людзей стварала спрыяльныя ўмовы для запазычання абрадавых і пазаабрадавых твораў. З гэтага часу пачынаецца актыўнае распаўсюджанне народных песень праз друкаванае слова. Натуральна, што ў гэты перыяд працэсы ўзаемапранікнення значна актывізуюцца. У беларускі рэпертуар арганічна ўліваюцца шматлікія рускія песні, любоўная лірыка, мяшчанскі, а пазней жорсткі раманс. Паступова набрала моц хваля сацыяльна-бытавых (рэкруцкіх, салдацкіх) і жартоўных песень, прыпевак.

Актыўныя міграцыйныя працэсы, адсутнасць сур'ёзнага моўнага бар'ера стваралі ўмовы для існавання дзвюх тэндэнцый запазычання. Значная колькасць рускіх твораў засвойвалася на Беларусі без ніякіх змен. Разам з тым у шэрагу выпадкаў запазычанне не было пасіўным.

Раздзел заканчваецца аналізам некалькіх канкрэтных прыкладаў, якія сведчаць і аб беларускім уплыве на песенную творчасць рускіх. Фалькларыст слушна адзначае: «Характар міжэтнічных фальклорных узаемасувязей і напрамкі ўзаемадзеяння ў значнай ступені залежаць ад рэгіёна, у межах якога ўзаемадзеянне адбываецца. Асаблівую інтэнсіўнасць фальклорныя ўзаемаўплывы набываюць у зонах непасрэдных кантактаў рускіх і беларусаў».

Якасна новы этап у развіцці культурных сувязей братніх народаў наступіў у савецкі час. К. Кабашнікаў адзначае, што само развіццё фальклору адпавядае галоўным этапам сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця нашай краіны.

Своеасаблівая сітуацыя для ўзаемаўзбагачэння фальклорных традыцый розных народаў склалася ў гады Вялікай Айчыннай вайны. На франтах, у партызанскіх атрадах побач знаходзіліся прадстаўнікі розных нацыянальнасцей, «што непазбежна вяло да непасрэдных культурных кантактаў, непасрэднага абмену духоўнымі каштоўнасцямі». Шырокую распаўсюджанасць набываюць песні «Шчэ сонца на заходзіла...», «Ой, з-пад горкі ўсё туман...», «Ты не віся, чорны воран» і многія іншыя.

Пастаянныя, усё больш разнастайныя кантакты характарызуюць рускую і беларускую песнятворчасць у пасляваенны час. Перш за ўсё, адзначае вучоны, іх аб'ядноўвае ідэйна-тэматычнае адзінства: радасць перамогі над ворагам, імкненне аднавіць разбураныя гарады і вёскі, захаванне міру на зямлі.

Перагорнута апошняя старонка кнігі. Аўтарскай рукой пастаўлена кропка, якая спыняе даследаванне фальклорных працэсаў на сённяшнім дні. Але на яе месцы хацелася б бачыць шматкроп'е. Тры братнія народы прадаўжаюць тварыць сваю гісторыю, а яна абавязкова вымагае далейшага росквіту духоўнай культуры.

Сёння вуснапаэтычная творчасць усходнеславянскіх народаў перажывае складаны час. Ёй наканавана лёсам вытрымаць жорсткую канкурэнцыю з боку масавай культуры, якая з дапамогай сродкаў аўдыёвізуальнай камунікацыі ўсё глыбей пранікае ў маладзёжную аўдыторыю. Ці зможа фальклор захавацца цэласнай, непадзельнай сістэмай? Ці набудзе цяперашні «фальклорны бум»—зварот да вуснай песнятворчасці розных фальклорна-этнаграфічных, самадзейных калектываў—адзнаку ўсеагульнай зацікаўленасці ў захаванні спадчыны? Ад станоўчага вырашэння гэтых пытанняў залежыць будучы лёс нашага народа. Кожны народ стварае сваю гісторыю сам. А для таго, каб наша гісторыя мела свой твар, мела далёкую перспектыву, нам трэба вельмі ашчадна ставіцца да культурных традыцый продкаў. Якой будзе сённяшняя старонка нашай гісторыі, якой яе змогуць прачытаць нашы нашчадкі, залежыць ад нас.

**Іван КРУК.**

## *САВЕЦКАЯ МАСТАЦКАЯ КУЛЬТУРА: ГАЛОЎНЫЯ ВЫНІКІ ГОДА*

# ПАЗІТЫЎНАГА БОЛЬШ

**ЦІ МОЖНА адназначна ацаніць стан савецкага мастацтва за 12 месяцаў 1988 года? Думаецца, што можна. Ва ўсякім разе, галоўны вынік развіцця мастацкай культуры бачыцца пазітыўным.**

Нязгодныя з гэтым пунктам гледжання могуць выказаць многа пярэчанняў. Яны, у прыватнасці, прыгадаюць, што большасць значных літаратурных твораў, апублікаваных у часопісах ці выпушчаных асобнымі выданнямі, напісаны ў мінулым. Абавязкова звернуць увагу на тое, што рэформы ў кінематографе і тэатры часта буксуюць, асабліва на перыферыі. Адзначаць, што раскрыты яшчэ не ўсе «белыя плямы» і па-ранейшаму існуюць «забаронныя зоны». І, напэўна, скажуць пра жорсткую палеміку паміж прыхільнікамі і праціўнікамі пераўтварэнняў у мастацтве, пра няўменне весці спрэчку без прыклейвання ярлыкоў і палітычных абвінавачванняў.

Не адмаўляючы грунтоўнасці падобных пярэчанняў, усё ж пацвердзім свой першапачатковы вывад: савецкае мастацтва ў 1988 годзе развівалася ў цэлым па ўзыходзячай лініі. Кожны месяц прыносіў своеасаблівую сенсацыю. І характэрна, што ўжо наступны месяцператвараў «сенсацыю» ў звычайны факт культурнага жыцця. Гэта сведчанне таго, што і мастакі, і чытачы, і гледачы асвоіліся з публічнасцю і нават прывыклі да яе, што яны не маюць намеру спыняцца на дасягнутым і набытым.

Публікацыя «Доктар Жывага» Б. Пастэрнака. К[illegible] М. Гумілёва, У. Набокава, [illegible] Замяціна. Тэатральная і тэлепастаноўка «Сабачага сэрца» М. Булгакава і артыкул у часопісе «Тэатр» акадэміка А. Сахарава. Публікацыі І. Бродскага, Ю. Даніэля, В. Вайновіча, якія яшчэ нядаўна лічыліся ў «дысідэнтах». Аднаўленне ў Саюзе пісьменнікаў В. Някрасава... Усё гэта прыкметы года, далейшага руху дэмакратызму ў мастацтве.

Вядома, ёсць яшчэ пісьменнікі і нявыданыя. Але ж пераўтварэнні ў культуры не заглухлі, а працягваюцца. Тое, што было немагчыма ў 1987 годзе, стала магчымым у 1988-м. Тое, што не ўдалося ў 1988 годзе, магчыма, адбудзецца ў будучыні. Час працуе на перабудову, яна гістарычна неабходная.

Дзяржаўнай прэміі 1988 года ўдастоены У. Дудзінцаў за раман «Белае адзенне», А. Прыстаўкін за аповесць «Начавала тучка залатая», рэжысёр А. Герман за фільм «Праверка на дарогах»... Выбар менавіта гэтых людзей і іх твораў, самых, бадай, «перабудовачных» за ўвесь перабудовачны перыяд, характэрны і сімвалічны. У пэўнай меры нават адказ тым, хто палічыў, што перабудова ў мастацтве «прыпынена зверху».

Рэформы ў кінематографе і тэатры ажыццяўляліся ў 1988 годзе з цяжкасцямі. Але фільмы ўсё вастрэй узнімалі забаронныя раней тэмы, указвалі грамадству на яго беды і недахопы. На сцэне ішлі п'есы, дзе дзейнічаюць «жывыя» Ленін, Бухарын, Зіноўеў, Троцкі... Тэатр стаў больш злабадзёным і... менш тэатральным.

У выставачных залах усё больш твораў мастакоў авангарда. Гэта таксама прыкметы дэмакратычнасці і цярпімасці. Наўрад ці авангард мае будучыню ў СССР. Я сумняваюся, што яго прадстаўнікоў у краіне чакае «стабільны» поспех. Занадта далёкія яны ад народа. Тым не менш выстаўкі мадэрністаў — гэта ажыццяўленне плюралізму думак. Яны дадуць і ўжо даюць штуршок да далейшага развіцця рэалістычнага мастацтва, якое цяпер разумеецца шырэй і глыбей, чым раней.

«Белыя плямы», сапраўды, яшчэ застаюцца. Але нельга не адзначыць, што ў 1988 годзе іх стала значна менш, чым у годзе папярэднім. «Забаронныя зоны» таксама яшчэ, на жаль, існуюць, аднак і яны памяншаліся ў сваіх памерах літаральна ў кожным месяцы 1988 года

З'явіліся і іншыя пазітыўныя перамены. Расшырыліся міжнародныя культурныя кантакты. Усё больш дэмакратычна і свабодна працякаюць дыскусіі паміж прадстаўнікамі савецкай мастацкай культуры і іх замежнымі калегамі і апанентамі. Стала бясспрэчным: абараняючы тое, што табе дарага, трэба паважаць і тых, хто думае па-іншаму. Можна, напэўна, не баючыся перабольшанняў, сцвярджаць, што ў 1988 годзе ў галіне міжнародных кантактаў у стварэнні атмасферы даверу паміж народамі прадстаўнікі савецкай творчай інтэлігенцыі зрабілі ў шэрагу выпадкаў не менш, чым дыпламаты.

Палеміка і дыскусіі, што вядуцца на старонках часопісаў і ў залах, сапраўды, часта выходзяць за межы ветлівасці. Аднак трэба ўлічваць, што ўсё новае заўсёды сустракалася з недаверам і нядобразычлівасцю. Усякаму «за», як гаварыў Пікасо, папярэднічала «супраць». Але вельмі абнадзейваючы факт: самі чытачы ў пісьмах у рэдакцыі газет і часопісаў пратэстуюць супраць прыклейвання ярлыкоў і грубасцей. І ўвогуле, чытач і глядач у 1988 годзе сталі больш прыкметнымі фігурамі, чым раней. З імі ўсё больш вымушаны лічыцца і мастакі, і чыноўнікі, таму што ва ўмовах дэмакратычных рэформ менавіта чытач і глядач ужо ў многім вызначаюць, што добра і што дрэнна.

У 1988 годзе была зроблена спроба ўвесці ліміт на газетную і часопісную падпіску. Чытачы ўспрынялі гэта абмежаванне як удар па публічнасці. Яны сказалі сваё слова, і дастаткова гучна, каб іх пачулі. Ліміт адмянілі. Гэта таксама адна з несумненных перамог.

Падводзіць вынікі мастацкага жыцця за адзін год можна, вядома, толькі з пэўнай доляй умоўнасці. Але думаецца, што бесстаронняе ўзвешванне ўсяго таго, што ўдалося і не ўдалося ў 1988 годзе, дазваляе ўпэўнена сцвярджаць: пазітыўнага было больш.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**






**Нядаўна ў Мінску прайшло рэспубліканскае свята дзіцячай харавой музыкі. Яно сабрала ў Палацы спорту сорак лепшых калектываў. Кожны хор выступіў з уласнай праграмай, а потым, утварыўшы адзін грандыёзны хор, юныя спевакі выканалі творы Моцарта і Гайдна, Пахмутавай, Лучанка, Дунаеўскага, народныя песні. Дырыжыраваў трохтысячным хорам вядомы беларускі музыкант, народны артыст БССР прафесар Віктар Роўда.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступае аб'яднаны дзіцячы хор; дырыжыруе народны артыст БССР прафесар Віктар РОЎДА.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**

